№ 52 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцііі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 52 (248). Год III. Вільня, 5 ліпня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 4 ліпня.

### Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Баевая чыннасьць узмацавалася пад вечар на розных адрэзках. Нараніцы пачаўся сільны варожы агонь наабапал Соммы. Пасьля тут узьняліся пешые бітвы.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Вострые мясцовые францускіе атакі на поўначы ад Эн. На ўсходзі ад Мулен-су-Туван ворагі адбіты контратакай на нашай пярэдняй лініі. У іншіх мясцох атакі іх зломлены перад нашымі загарадзямі. Пры Шато-Т'ері адбіты новые наступленьні ворагаў.

*Фронт ф. Гальвіца і Альбрэхта Вюртэмбэрскага:* Сільные наступленьні ворагаў на ўсходнім беразі Маасу адбіты. У Эльзасе ў удачнай операцыі мы ўзялі палонных.

Лейтэнант Удэ дайшоў свае 40-й пабеды.

---

БЭРЛІН. Нямецкая біохімія ізноў зрабіла вялікае адкрыцьце, забасьпечываючае эканамічную незалежнасьць Нямеччыны ад заграніцы. Удалося дабыць вельмі добры клей з бактэрый. Гэтак нестачы клею ня будзе.

БЭРН. Сюды прыбыло 200 румынскіх уцекачоў, у тым ліку члены лібэральнай партыі, між імі Братіану, Такэ Іонэску і быўшые італьянскі і францускі паслы ў Букарэшце. Большая часьць уцекачоў маніцца задзержацца ў Люцэрне.

У лістападзе 1916 году, на жаданьне англічан, перад прыходам немцаў былі зруйнаваны студні дзеля дабываньня газы ў румынскім прамышленым окрузе. На пратэсты выдатных румынаў палкоўнік Томсон заявіў, што Англія верне ўсе школы, ды што грошы тут не маюць ніякае вагі. Тады пачалося нішчэньне, падобнага каторамy па разьмерам і бязмыснасьці дагэтуль не бывало. Аднак, гэты крок свае мэты не дайшоў. У студні месяцы 1917 году пад нямецкім кіраўніцтвам пачалася адбудова руін і прачыстка засыпаных крыніц газы. Пасьля 6-дзённай работы была прачышчэна першая студня, якая пачала даваць па 6 тонн газы ў дзень. Да 31 марца было прачышчэно ўжо болі 30 студзен, якіе давалі ў дзень больш за 20 вагонаў газы. Чысло прачышчэных студзен у канцу 1917 году павялічылося да 335, а да 30 красавіка 1918 года—387, каторые давалі 78% нормальнай перад вайной меры газы. Гэтак ужо цяпер Румынія можэ поўным ходам выкарыстаць свой глаўны промысел.

ВЕНА (В.Т.Б.). 4.VII. Паводлуг вестак с Константынополя, учора а 7 гадз. вечара памёр Султан.

БУКАРЭШТ. Румынскі сінод налажыў царкоўны забарон на рускага епіскапа Бессарабіі Анастасія за тое, што ён адказаўся быць у Румынскім сінодзе.

ГААГА. Гішпанская хвароба шырыцца і ў Лёндоне. Посярод апошняга тыдня лічба захварэўшых павялічылася ў 10 разоў. У розных вялікіх мястох Англіі гэтая хвароба таксама зьявілася. Прамышленасьць вельмі церпіць ад гэтага. У Бірнінгаме дзеля гэтага трэба было зачыніць ўсе тэатры і кінематаграфы. У Мільборо захварэло больш 60 тысяч вучняў. У Манчэстэры 70 вагонаў конкі ня ходзяць падзеля хваробы службы.

БЭРН. Італьянская вэрф Ансальдо павялічыла свой капітал с 100 мільёнаў на 500 мільёнаў лір. Гэта робіцца дзеля канечнай патрэбы стварыць пасьля вайны вялікі італьянскі гандлёвы флот, каб зрабіць італьянскі гандэль пезалежным ад заграніцы.

ХРЫСТЫАНІЯ. Злучэные Штаты пазволілі будаваць караблі менш 1.000 тонн прыватным людзём, але пад варункам, што гэные караблі могуць быць ужыты ўрадам на ваенные мэты.

ВЕНА. Імператар прыняў у доўгай аўдыэнцыі быўшага міністра заграпічных спраў графа Чэрніна.

Рэдакцiя „Гомана“ просіць усе пісьмы, рукапісы да друку, карэспандэнцыі, газэты і т. п. пасылаць ёй **ТОЛЬКІ** па адрэсу: **Віленская вул. 33, кв. 1.**

# НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ.

### 4 месяцы працы.

20 чэрвеня мінулі чатыры месяцы працы Народнага Сэкрэтарыату Беларускай Народнай Рэспублікі, каторы працуе ад пачатку ў нязьменным складзе.

### Новые беларускіе школы.

Як відаць с справаздачы народнага сэкрэтара прасьветы, ў найбліжэйшым часе мае быць адкрыто багата новых беларускіх школ. Дзеля гэтага ў ліпні—жніўні ў Менску маюць быць адкрыты месячные курсы для вучыцялёў пачатковых школ, каб пазнаёміць іх з беларусазнаўствам і мэтодыкай яго. У восень маюць быць адкрыты пастаянные двохгадовые курсы дзеля падгатоўкі вучыцялёў пачатковых школ, а такжэ адна, або дзьве беларускіе гімназіі. Цяпер пад загадам места ёсьць каля 20 беларускіх ніжэйшых школьных комплектаў. У восені, здаецца, пачнуць працаваць беларускіе вышэйшые пачатковые школы.

### Беларуская ўрадовая консэрваторыя.

Адкрытая ў красавіку Н. Вяратам Вышэйшая Музыкальная Школа ў Менску пераходзіць пад загад Народнага Сэкрэтарыату і рэарганізуецца ў Беларускую Урадовую Консэрваторыю. Вельмі добры падбор прафэсароў і вялізарны наплыў вучняў даюць паруку, што новая школа адыграе ролю ня толькі вучашчай, але і вучонай установы. Кіраўніком Консэрваторыі астанецца надалей прафэсар Варшаўскай Консэрваторыі Жураўлёў. У Консэрваторыі адкрываецца новы аддзел—дзеля знаёмства з беларускай песьняй, гісторыей беларускай культуры і беларускім харальным пеяньнем.

---

*Вільня, 5 ліпня 1918.*

Да нас дайшла абвестка старшыні Народнага Сэкрэтарыату Беларускай Народнай Рэспублікі, каторая заклікае кіраўнікоў беларускіх грамадзкіх установ, а такжэ беларусаў, якіе занімалі становішчы начальнікаў вывезеных расейцамі дзержаўных установ у Віленшчыне, Гродзеншчыне і Меншчыне, або былі прафэсарамі ці вучыцелямі ў расейскіх школах, каб адгукнуліся і прысылалі аб сабе весткі, калі хочуць працаваць у сваёй Бацькаўшчыне.

Абвестка гэная прымушае вельмі сур'ёзна падумаць аб справе нашага дзержаўнага будоўніцтва. Арганізацыя беларускае ўласьці па ўсей старане, утварэньне справўнай адміністрацыйнай машыны, каторая акуратна праводзіла-бы ў жыцьцё загады вышэйшых гасударственых установ,—гэта задача нялёгкая. Тут патрэбны рабочые рукі—ды нават вельмі многа іх. І перад арганізатарамі Беларускага гасударства паўстае пытаньне аб падборы адпаведных людзей.

Бязспорна, Беларускі народ мае і можэ даць такіх людзей, колькі трэба: кіньце вокам па ўсей Расеі, і ў найдалейшых кутох вы сустрэнеце на адміністрацыйных становішчах эмігрантаў з Беларусі. У іх родным краю панавалі дагэтуль чужынчы, і запраўдным сыном Беларусі прыходзілося дзеля хлеба выбірацца ў прочкі і рабіць для чужых: дома ім месца не хапало. І там, у чужыне, многа іх забывало аб сваёй Бацькаўшчыне і сваім народзе, забывало родную мову беларускую, а дзеці іх, узрастаючы між чужым народам, узгадовываліся ў чужой нам культуры, у чужым для нашага краю духу. Вось-жэ цяпер, калі цэлые грамады нашых вольных ці нявольных эмігрантаў будуць варочацца да родных кутоў, трэба з вялікай асьцярожнасьцю рабіць між імі выбар, даючы ім адказные становішчы: трэба сьцерагчыся людзей, якіе будучы па пашпарту беларусамі, маглі-бы аказацца ворагамі нашага народу і незалежнасьці Беларусі.

Яшчэ пад маскалямі ў сэрцы нашай зямлі былі завяліся нягоднікі, каторые, будучы косьць с косьці і кроў с крыві беларусамі, пад імем беларушчыны правадзілі ў нашы вёскі маскоўшчыну. Усім памятны імёны Кавалюка, Саланевіча і цэлага сьцягу здрайцаў народу Беларускага, дзеля грошы запрадаваўшых сваіх братоў у вечную няволю маскалём. Гэткіе „дзеячы“ не зьвяліся: яны і цяпер з дзікай ненавісьцю кідаюцца проці ўсяго беларускага, хоць цяпер, як чутно, яны „чорнасоценскі“ штандар замянілі на „чырвонасоценскі...“

Проці такіх і гэтым падобных „дзеячоў“ мы і перэсьцерэгаем наш малады беларускі ўрад.

Caveant consules!..

---

# Усход, ці Заход?

Ужо самае географічнае палажэньне Беларусі было прычынай нашага цягаценьня на Заход і да Балтыцкага мора ад найдаўнейшых часоў. Некалі глаўнай тарговай дарогай былі рэкі, а яны як-раз плывуць ад нас пэрэважна да Балтыцкага мора (Нёман, Дзьвіна), ды толькі Дняпро, прарэзываючы нашу зямлю, цячэ на палудзень і разам с Балтыцкай сыстэмай ад вякоў станавіў тарговую дарогу „з Варагаў у Грэкі“. Цягаценьне да Заходу і да мора, якое адкрывало вольны доступ да яго, было гэткае сільнае, што беларусы ў сваім дзержаўным будоўніцтве былі прымушэны шукаць найцясьнейшай еднасьці з літвінамі,

прытарнавалася да такога разбойніцкага смактаньня зямлі. Жывёлы ён так, як не хавае. Досіць сказаць, што год таму яшчэ назад пры перапісі аднае с самых ураджайных паўднёва-кацапскіх губэрняў—Арлоўскай, у 12 паветах усяго было 300 тысяч галоў рагатае жывёлы. Гэта значыць на вялізарны павет 25 тысяч. А гэта-ж край не зачэпляны вайной! Калі-ж мы ўспомнім нашы гаспадаркі даваенные, то ў нас адна воласьць мела яшчэ болей жывёлы, чымся ў кацапаў цэлы павет. Сьвіней так як нема, таксама і авечак, значыць нема і гною, дый той гной, каторы ёсьць, марнуецца дарма, або вывозіцца на раку, на лёд, каб веснавая паводка яго панесла, або на дарогі, а то сушыцца і паліцца ў печы. У такой, напрыклад, Пензенскай губ. берагі ракі Суры—гэта адзін перагніўшы гной. А ў гэтую самую Пензенскую губэрню прыехаўшые нямецкіе арэндары, плацюць мужыком па 5—10 капеяк за воз гною, вывезенага на іх поле, і затое поле ў іх родзіць. Другое—гэта выраба поля. З нас сьмяюцца, што мы робім поле сахой. Цэнтральная земляробная Расея сахі найбольш не знае: яна гоніцца найбольш за плугам двохтрох-чатырохлемешным, такім, якім у нас прыгорываюць канюшыньнішчэ, або аржышчэ. Бяды мала, што ён бярэ плыценькую скібку, абы шырака браў, абы спарней ішла работа. Апроч гэткага плуга, ёсьць яшчэ ў яго барана, найбольш дрэўляная. У нас аржышчэ зьдзяруць, ў нас на зіму загаруць глыбака, з вясны забарануюць, пасеюць ярыну, а там, кольі мне прыходзілося бачыць, як леташняе аржышчэ, зімуе не загарана, а вясной проста ў аржышчэ сеюць авёс, гэным плугом загаруць яго плыцёнька, дый годзе, і нема дзіва, што пасьля такой выраба зямлі, родзіцца больш пырніку, сьвірэпкі, як аўсу. Бульбы Расея так як не садзіць, дый тое, што пры гэтакай вырабе садзіцца, калі зьбяруць яе пуд. 400 з дзесяціны, то ўжо крычаць „гура“. Канюшыны земляробные кацапскіе губэрні таксама мала знаюць. Адным словам гаспадарка селяніна і ўвесь склад яго думкі—гэта гаспадарка чэлавека, у каторага было зямлі ня толькі даволі, але і з лішкам, каторы, высмактаўшы сваю зямлю, ішоў шукаць сабе новай яшчэ багацейшай зямлі. Гістарычнае разьвіцьце Маскоўскага гасударства, каторае пёрлося на ўсход — гэта гэтая самая псыхолёгія, але ўжо ў меры гасударственай. Якіе былі рэзультаты гэткай гаспадаркі? А рэзультаты былі такіе, што Эўропейская Расея бяз Польшчы за пяцілецьце 1908—12 году давала з дзесяціны ў год 42 пуды жыта ці 48 пудоў пшаніцы і гэта з Украінай. На стыд і на сорам Расеі гэта найніжэйшы ў сьвеце ўраджай з дзесяціны. Але гэта-ж ураджай улічаючы туды Украіну, Беларусь, Балтыцкі узьберэж. А колькі-ж астаецца тады на праўдзівую Маскоўшчыну? Ды яшчэ, калі прыгледзіцца да ўраджаю Расеі паводле губэрняў з году на год, то мы ўбачым, што ў кацапскіх губэрнях ураджай то падымаецца, то падае „як Бог дасьць“, але, агульна кажучы, не падымаецца. У Польшчы, у Беларусі, на Балтыцкім узьбержы ўраджай з году на год то падае, то падымаецца ня толькі „як дасьць Бог“, але як і захочуць людзі і, агульна кажучы ўраджай з дзесяціны падымаецца. Грабежская гаспадарка кацапскага селяніна робіць тое, што ён мае для продажы толькі збожжэ і сена, тады як наш селянін прадае ўсякую жывёлу і прадукты ад жывёлы (масла, сыры, мяса, яйцы). Наш селянін, апрача збожжа, мае на яду бульбу, мае малако, мае сланіну, гарох, гародніну. У нас неўраджай збожжа гэта яшчэ ня голад,—для маскоўскага мужыка гэта голад. Вось чаму нашага мужыка казьне ніколі не прыходзілося карміць, а сваіх раз у 2—3 гады прыходзілося карміць ня тут, то там.

Ня сыты ад свае гаспадаркі, кацапскі мужык шукаў хлеба альбо павялічываючы гаспадарку арэндай, альбо прадаючы ў старану сваю працу. А як земля на яго душу ўсё роўна надзелялася, жывёлы нема, будынкаў нема, дык і цэлымі вёскамі мужчыны выходзюць на ўсякіе работы: на мулярку, на цясёўку, на фабрыкі, на рыбалоўства, у капачэлі. У хаці астаецца баба з дзяцьмі; яна і робіць гаспадарку. Гэта, так званы, „отхожій промыселъ“. Вярнуўшыся на зіму дамоў мужчыны знайходзяць кватэру, крышку хлеба, прынясуць с сабой грошы і так дакідаюцца да найбліжэйшага сэзону. Рэзультат такой работы, што мужык перастае быць добрым гаспадаром і ня робіцца добрым работнікам, робіцца з яго лятун, непаседа, каторы нідзе месца не сагрэе.

Тут у імя праўды трэба сказаць, што хаця Сталыпін і добра даўся нам у знакі, але ўся яго рэформа скасаваньне „обшчыны“ мела вялізарнае значэньне для Маскоўшчыны і магла бы выратаваць гасударственную гаспадарку Расеі, як гэта прызнаюць заграгічные спэцыалісты ў аграрных (зямельных) справах. Але на нешчасьце Расеі, сама па сабе разумная рэформа праводзілася для ўсіх ненавісным чэлавекам і ненавісьць чэлавека пераносілася і на яго работу.

Хоць у тэорыі „обшчына“ давала найвышэйшую справядлівасьць і роўнасьць, на практыцы шчасьця і хлеба яна людзём не дала. Бо ёсьць дзьве справядлівасьці, два спосабы раўнаваць людзей. Калі, прымерам кажучы, у майго брата ваенная навальніца спаліла хату і ўсё і яму прыходзіцца жыць у яме, а я жыву ў цёплай хаці, то справядліва будзе і роўные мы будзем з братам і тады, калі абодва сядзем у хатах, і тады, калі абодва сядзем у ямах, і хоць і трудней брату пабудаваць новую хату, то ўсё-ж-такі ляпей будзе брату, калі мы абодва сядзем у хатах.

*«Сабатажнік»*.

(Далей будзе).

# У Вільні і ваколіцах.

× **Аб выплаце даўгоў.** С прычыны сільнага ўпадку курсу расейскага рубля Глаўнакамандуючый на Усходзе выдаў загад паводлуг каторага старых даўгоў, зробленых расейскімі рублямі, нельга спаганяць у „нямецкіх“ рублёх па цяперашняму курсу. Гэткіе даўгі павінны з абапольнай згоды выплачывацца таксама ў расейскіх рублёх, або ў нямецкіх рублёх, толькі па згодліва ўстаноўленаму курсу, або, калі нельга дайсьці угоды, выплата гэткіх даўгоў адкладаецца на неазначэны час.

× **Галоўшчына.** Stadthauptmann напамінае, што трэба не адкладаючы плаціць трэйцюю частку галоўшчыны за гэты год і ўсе нядоімкі за першае паўгоду 1918 г. і за мінулые гады 1916 і 1917. Пасьля 20 ліпня проці незаплаціўшых будзе ўжыта прынука. Просьбы аб паменшэньні або звальненьні ад галоўнага падатку не спыняюць ходу справы.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 1—2 | + 25,2° | + 14,0° |
| 2—3 | + 30,2° | + 15,8° |
| 3—4 | + 28,5° | + 17,7° |

# З усяго Краю.

### З Менскага жыцьця.

= Справа беларускага тэатру цяпер стаіць тутака на добрым грунце. Народны Сэкрэтарыат зацьвярдзіў ужо дырэкцыю беларускага ўрадовага тэатру, зложэную с трох асоб, а такжэ становішчэ артыстычнага кіраўніка і склад драматычнае дружыны.

Сюды прыехаў гэтымі днямі вядомы беларускі драматычны аўтар і артыста, Ф. Олехновіч, кіраваўшый усей театральнай работай у Вільні. З яго ўчасьцем і пад яго кіраўніцтвам маюць быць пастаўлены на менскай сцэне яго сцэнічные творы.

П. Олехновіч сустрэў у Менску вельмі гарачы прыём.

ГОРАДНЯ Дамаўласьнік Бэр Квінтоўскі, с Татарскае вуліцы, напаіў свайго кватэранта п'яным і прымусіў яго падпісаць некарысную для апошняга арэндную ўмову. Квінтоўскага арэштавалі.

ТЭЛЬШЫ. На тутэйшым літоўскім дабрачынным вечары на карысьць бедных чысты збор дайшоў 743 руб.

ЛІБАВА. Глаўнакамандуючый на Усходзе прыехаў сюды дзеля агляду порту і места.

ПІНКЭНГОФ. У часі навальніцы ў тутэйшым лесе вырваны с корнем або паламаты 4.000 грубых дрэў.

ТУККУМ. Паліцыя арэштавала вярнуўшагася расейскага салдата, каторы камандаваў бандай разбойнікаў, рабаваўшых у Туккумскім павеце.

РЫГА. 4 ліпня тут назначэн ліфляндзкі шляхоцкі зьезд.

# Украіна.

### Адозва.

Культурна-прасьветная сэкцыя «Беларускае нацыянальнае арганізацыі на Украіне» выпусьціла гэтакую адозву: „Сыны Беларусі! У цяжкі і гістарычны момэнт жыцьця нашае Бацькаўшчыны Беларусі і многапакутнага Беларускага народу, у час, калі многіе з вас, раскіненые па сусьветным абшары дзякуючы сучасным падзеям, апынуліся сярод цемры на ростанні дарог,—голасна клічэм вас да сьвету на шлях вольнага жыцьця.

Усіх вас, каму ўжо адно імя *Беларусь*, гаворэ аб нечым родным,—хоць мо, і забытым, закінёным у самы глухі куток вашай памяці,—усіх, хто спазнаў і хто хочэ спазнаць, што толькі сам Беларускі Народ можэ будаваць сваю долю, клічэм да працы па адбудове свайго нацыянальнага народнага шчасьця.

Падходзіць апошняя і самая страшэнная часіна, калі вырашаецца доля Беларусі і яе, векамі цярпеўшага рабства, Беларускага народу, калі мы, беларусы, павінны сказаць на ўвесь сьвет, што мы жывём

Дык гуртуйцеся-ж, беларусы, ідзеце на сьветлы шлях нацыянальнага злучэньня! Пазнавайце сваю родную гісторыю, багацьце і красу свае Бацькаўшчыны, сваю мінуўшчыну, сваю літэр-туру, свой праўдзівы славанскі характар; сваю долю, сваё шчасьце, каб праканацца ў тым, што не бяднейшые мы і ня горшые ад іншых, што жыла, жыве і будзе жыць наша *Вольная Беларусь*.

Усе, хто чуе ў сабе хоць якуюнебудзь сілу і здольнасьць да грамадзянскае і культурнае працы, с першай магчымасьцю цягнецеся на родные палеткі, каб там палажыць сваю цагліну на народны будынак.

Браты! Усе, хто лічыць сябе сынам Беларусі, абуджайце беларускую нацыянальную сьвядомасьць, шырэце і падымайце нацыянальную культуру, каб прынесьці ў агульначалавецкую скарбніцу свой беларускі дар.

Памятайце, што ў злучэньні сіла і што толькі злучэным нацыянальна не страшны нам ніякіе варожые заходы і, рана ці позна, мы выкуем шчасьце і долю сваю.

Назад павароту німа, дарога адкрыта наперад.

Памятайце-ж, Браты Беларусы, што толькі на ўласные сілы трэба лічыць і толькі ўласнымі сіламі можна будаваць сабе *Дом—Бацькаўшчыну*.

Да працы, да нацыянальнага самапазнаньня клічэм усіх, Сыны Беларусі, каб у тую гістарычную часіну, якая надыйдзе ніўзабаве, маглі мы адважна, шчыра, поўные і пэўные сілы сказаць:

*Занімай, Беларусь, маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між славянамі!*“

### Новая беларуская газэта.

20 мая 1918 году ў Кіеві пачала выходзіць новая газэта па беларуску і па вялікарускy: „Беларускае Эха“—пры ўчасьці выдатных беларускіх палітычных сіл: А. Бурбіса, Я. Варонкі, О. Дылы, праф. Доўнар-Запольскага, акад. Карскага, А. Смоліча, Я. Хлебцэвіча, А. Цьвікевіча і інш. Газэта выдаецца беларускай колёніей у Кіеві; яна дае ўсе весткі аб будоўніцтве беларускае дзержавы і асьветляе беларускае жыцьцё на Украіне.

Адрэс Рэдакцыі: Кіеў, Троіцкая вул. (раней Рыльскі зав.) № 4.

КІЕУ (В.Т.Б). 2.VII. 27 чэрвеня Гэтман прыняў дэлегацыю ўкраінскага земскага з'езду, каторая падала яму мэморыал, у каторым гаворыцца, што край нездаволен цяперашнім габінэтам і дамагаецца назначэньня новага нацыянальнага габінэту і сазыву нацыанальнага сэйму і дзержаўнай рады.

У ўкраінскіх урадовых кругох гавораць аб хуткай зьмене габінэту.

КІЕУ. С прычыны страшэннага выбуху, зьнішчыўшага часьць места і пазбавіўшага жыцьця вельмі многа людзей, нямецкі пасол высказаў Гэтману спагад нямецкага Імпэратара.

ПОЛТАВА. Тут адкрываецца юрыдычны факультэт.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ЦЮРЫХ. Паводлуг газэтных вестак, у Расеі рады селян распушчэны і заменены батрацкімі радамі.

Савецкі ўрад апублікаваў дэкрэт аб кары сьмерці спэкулянтам цэннымі паперамі. Наагул, савецкі ўрад ізноў увёў усюды кары сьмерці.

Браты Чэрэп-Спірыдовічы, выйшаўшые с Чорнагорыі і іграўшые перад вайной у расейскіх славянафільскіх кругох выдатную ролю, растрэляны.

ПЕЦЯРБУРГ. Пры выбару работнікаў і чырвона гвардзейцаў у саветы выбраны 308 комуністаў, 34 левые соцыял-рэвалюцыанеры, 1 меньшэвік і 1 правы соцыалрэвалюцыанер.

„Ізвестія“ зьвертаюцца с прызывам да прыхільнікаў большэвікоў паддзержываць урад у барацьбе с контррэвалюцыей. Выкрыты ніці пляну быўшых саюзьнікаў Расеі ўцягнуць яе ізноў у вайну і дабіцца кадэцкай контррэвалюцыі.

ПЕЦЯРБУРГ. Галава чэха-славацкага войска, Рожычка, цяжка ранен невядомым челавекам у грудзі на вуліцы.

Б. расейскі ваенны міністэр Сухомлінов паступіў у чырвоную гвардыю.

ЛОНДОН. Сем'я Раманавых перавезена ў Котельніч, Вяцкай губэрні.

МАСКВА. Паслы саюзьнікаў на пратэст расейскай ноты проці заняцьця іх войскам Мурманскага узьбярэжжа адказалі нотай, у каторай гаворыцца, што заняцьце гэнае—дачаснае і мае на мэці зашчыту зложэных там ваенных матэрыялаў саюзьнікаў. Францускі пасол Нулян прыехаў з Валогды ў Масквы дзеля перэгавораў у справе заняцьця саюзьнікамі Архангельску.

НЬЮ-ІОРК. У Владывастоку ізноў зыйшлі на бераг англіцкіе марскіе войскі.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 2.VII. У ніжняй палаце Бонар Лёў заявіў: „Мы маем аснову думаць, што расейскіе матросы чорнаморскага флоту, ня хочучы аддаць свае караблі немцам, затапілі іншые спаміж іх. Аднак, нема споркі, што значная часьць Чорнаморскага флоту пэпала ў нямецкіе рукі".

МАСКВА. Народны камісар заграпічных спраў апавешчае ў газэтах, што расейскі чорнаморскі флот вярнуўся ў Севастопаль с тэй умовай, што Нямеччына ня будзе карыстацца ім у гэтай вайне і пасьля міра верне яго Расеі.

КІЕУ. „Кіевск. Мысль" наказывае, што с прычыны выдачы Расеей чорнаморскага флоту немцам, саюзнікі маняцца чынна выступыць у Сібіры, на Мурмане і ў Архангельску. Савецкі ўрад быццым-то маніцца ў такім здарэньні зьвярнуцца аб помач да Нямеччыны.

# З усяго сьвету.

БЭРН (В.Т.Б.). 1.VII. Вестка, што англіцкі ўрад пастанавіў адрачыся ад свайго пляну завясьці ў Ірляндыі самаўпраўленьне, вызвала вялікае нездавольства ў Амэрыцэ, і там шмат дзе пачаліся зборы грошы на карысьць ірляндзкіх партый.

БЭРЛІН. Між Нямеччынай і Фінляндыей падпісана экономічная ўмова.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньні.

**2.VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Шмат дзе на фронці сільны агонь. Разьведачные наступленьні ворагаў адбіты.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: На заходзі ад Уаз і на поўдні ад Эн—ажыўленые разьведкі. На ўсходзі ад Урк і на заходзі ад Шато-Т'еры адбіты мясцовые атакі ворагаў.

Лейтэнант Удэ дайшоў свіх 37 і 38 пабед.

**3.VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Удачные разьведкі. Сільные наступленьні англічан пры Мэрі і Мэзньвіль адбіты. У мясцовых бітвах пры Альбэр мы ўзялі палонных.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: На поўначы ад Эн сягоньня нараніцы ўзьняліся мясцовые бітвы. Між Эн і Мару ажывілася чыннасць ворагаў. Пры Ст. П'ер Эгль і на заходзі ад Шато Т'еры адбіты варожые наступленьні.

С паміж 9 самалётаў аднэй амэрыканскай лятучай эскадры мы зьбілі 4. Лейтэнант Удэ дайшоў свае 39 пабеды.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ВЕНА. 1.VII. **Урадова** На поўдні ад Ас'яго ізноў узьняліся вострые бітвы. С прычыны таго, што Коль дэль Россо і Монтэ ді Валь Бэльля можна было ўдзержаць толькі з вялікімі ахвярамі,—нашы войскі ўзяты адтуль на глаўные пазыцыі ў лесе Стэнфле.

ВЕНА (В.Т.Б.). 3.VII. Пасьля сільнага артылерыйскага агню, каторы шмат дзе даходзіў сілы барабаннага, варожая пяхота пачала штурм. У крывавых бітвах, трываўшых увесь дзень, ворагі нідзе не здалелі дайсьці ўдачы. Толькі пры Шіеза Нуова яны незначна пасунуліся ўпярод. Пры Сэрзове італьянская спроба перайсьці цераз П'явэ адбіта. На заходзе ад Ассіолёнэ сільная атака ворагаў адбіта контратакай.

ЖЭНЕВА. Паводлуг слоў па дарожнікаў, вялікшые францускіе месты ўтрапілі францускі характэр. У мястох Бордо, Тулён, Тулюза, Ліон, Гавр перэважываюць людзі, панаехаўшые з усіх канцоў сьвету. У Марсэлі „колёрные" людзі становяць большасць праходжых на вуліцах. Ня гледзячы на вельмі цяжкіе страты францускага народу ў часе вайны, у Францыі цяпер блізка на паўтара мільёна больш жыхараў, чым было перад вайной.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 2.VII. У гмаху парлямэнту сягоньня адкрылася конфэрэнцыя саюзных парлямэнтаў. Прынімаюць учасьце прэдстаўнікі Англіі, Францыі, Бэльгіі, Грэцыі, Італіі, Румыніі, Португаліі, Кітаю, Японіі і Злучэных Штатаў. Конфэрэнцыя паслала англіцкаму каралю заяву, выказываючы сваю нязьменную пастанову напружаць свае сілы дзеля шчасьлівага канца вайны.

БУКАРЭШТ. Румынскі парлямэнт аднадушна прыпяў мірную ўвагу ў трэйцім чытаньні. Пры аб'яўленьні рэзультату галасаваньня маршалак парлямэнту сказаў: „Цяпер мы прыступаем да працы над адбудовай Румыніі".

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 2.VII. У Сярэдземным моры нашы падводные лодкі затапілі 4 параходы ёмкасьцю 15.000 тонн, а навакол Англіі—17.000 тонн.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 1.VII. Англіцкае адміралцейства апавешчае, што ў начы на 25 чэрвеня затоплен адзін шпітальны параход ёмкасьцю 11.423 тонны. Пры гэтым пагіблі 234 асобы.

## АБВЕСТКІ.





Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.